# З чаго смяюцца ў Савецкім Саюзе




## Паміж былымі



— У іх на Украіне горы вугалю, мяса, нафты, хлеба, сала, а нас называюць буржуямі...

## Пытанне і адказ

Тата, хто завецца п'яным? —
Спытаўся хлопчык нечакана
— Ну і даў-жа ты задачу
Добра — зараз растлумачу.
Бачыш, вунь два хлапчукі
Рыбу вудзяць ля ракі?
Калі ж п'яны хто, дык
значыць
Чатырох ён будзе бачыць.
—Тата,—дзівіцца тут сын —
Дык жа хлопчык там адзін.

А. ЦЫРКУНОЎ

## Пісьменнік—дачнік

— Чым ты вядомы, — я
пытаю?
— Машыну, дом уласны маю.
Уласную яшчэ я маю дачу...
— Таленавіты ты, як бачу, —
Усё ты маеш, ягамосць,
А голас уласны ў цябе ёсць?

АЛЕКСА ЮШЧАНКА

## Самае дужае

*Жартоўная байка*

«Ну хто ёсць у свеце дужэй ад мяне! —
Жалеза хвалілася. — Так, альбо не!»
«Я значна дужэйшы!» — агонь заявіў,
І ўмомант метал той расплаўлены быў.
«Заўсёды я ў свеце дужэйшай была!»
Сказала вада і агонь заліла.
«Не! — крыкнуў мароз, — я дужэйшы заўжды!»
І тут жа ільдзіну зрабіў ён з вады.
«А я ўсё ж дужэйшы, чым люты мароз!» —
Сказаў чалавек і ільдзіну занёс
У склеп дзе захоўваў старое віно.
«Не, ты не дужэйшы,» — сказала яно
І быў чалавек той паваленны зног,
Сп'янеў ад віна і падняцца не мог.
«А ўсё ж я дужэйшы!» — сказаў ціха соч, —
Заснуў чалавек і захроп нават ён.
«А-а, п'яніца, спіш, прысмактаўся к віну!» —
Ускочыў нябога, бо тут не да сну,
Калі над табой твая жонка крычыць.
Дужэйшы ад жонкі ну хто ж можа быць!

Пераклаў з рускай мовы УЛ. КОРБАН










*Без слой*



— *Глядзі, які дзіўны трактар прайшоў!*

*Малюнак А. Волкава*



*кам ён не паляўнічы, не рыбалоў і не балельшчык.*

## У абутковай майстэрні



— *Дробны рамонт робім у прысутнасці заказчыка Вы згодны?*
— *Згодзен*
— *Тады давайце ваш пашпарт на прапіску.*

## Здараецца і так



— *Самі рэгіструецеся ці нябожчыка запісваеце?*



— *На нашых варотах не б'юць, а варатар падае!*
— *Я і сам здзіўляюся — ён жа менш за ўсіх выпіў.*